# Спрэчка над гісторыяй Беларусі

Нядаўна чытач беларускай савецкай газэты зьвярнуўся ў ейную рэдакцыю зь лістом, у якім, між іншага, пісаў прыблізна такое: У школах Беларусі даволі грунтоўна вывучаецца гісторыя старажытнага сьвету — Эгіпту, Грэцыі, Рыму. І ў той-жа час амаль ня вывучаецца аб'ектыўная гісторыя роднага краю — Беларусі. Аўтар ліста пытаўся, чаму так робіцца, але простага адказу на гэта ён не атрымаў.

Недарэчная пастаноўка справы з вывучэньнем гісторыі свайго краю зусім натуральна хвалюе беларускую падсавецкую грамадзкасьць. Бо як можа нармальны чалавек зьмірыцца з тым, што яго пазбаўляюць магчымасьці пазнаць праўдзівае гістарычнае мінулае свайго народу? Пазнаць, чым і як жылі і што рабілі продкі — гэта **нармальная** цяга кожнага чалавека. Веданьне ўласнай гісторыі мае таксама вялікае выхаваўчае значэньне. Сучасьнік, маючы перад сабой аб'ектыўную гісторыю і аналізуючы яе, пабачыць памылкі продкаў і будзе старацца не паўтараць іх, і адначасна будзе імкнуцца насьлядоўваць добрыя дзеяньні сваіх бліжэйшых і далейшых папярэднікаў.

Справа йдзе пра гісторыю аб'ектыўную, бо праўду можна пазнаць толькі з такой гісторыі. Нехта можа сказаць, што ў школах Беларусі вывучаецца гісторыя Беларусі, што ёсьць выдадзеная двухтомная «Гісторыя БССР». Але якая гэта гісторыя? Насьцярожвае ўжо сам назоў — «Гісторыя **БССР**», гэта значыць гісторыя Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Тымчасам БССР была абвешчаная ў пачатку 1919 году, а беларускі народ арганізавана жыў і тварыў ужо прынамся на працягу тысячагодзьдзя. Да гэтага, абавязковая цяпер у школах Беларусі «Гісторыя БССР» створаная на аснове імпэрыялістычных канцэпцыяў афіцыйнай царскай гістарыяграфіі, якая была перанятая афіцыйнай гістарыяграфіяй савецкай. З гэтай расейскай вялікадзяржаўніцкай канцэпцыяй савецкая афіцыйная гістарычная навука ніяк не адважваецца разьвітацца. Партыя абвесьціла змаганьне супраць дагматызму. Чаму-ж змаганьне з дагматызмам абмінае галіну гісторыі, дзе дагматызм укараніўся якраз асабліва моцна?

Дзесяткі манаграфіяў, напісаных апошнім часам беларускімі навукоўцамі на тэму гісторыі Беларусі, не прапучшаюцца ў друк. Такія-ж перашкоды ставяцца й беларускаму гістарычнаму раману. За гэтую тэматыку, дасюль зусім не закрананую ў беларускай савецкай літаратуры, папробаваў быў узяцца таленавіты пісьменьнік Уладзімер Караткевіч. Ён падыйшоў да справы сумленна й з энтузіязмам. Найбольш сур'ёзным ягоным творам была першая кніга раману пра паўстаньне Кастуся Каліноўскага — «Каласы пад сярпом тваім». Пісьменьнік стараўся быць у згодзе з гістарычнымі фактамі. Але якраз гэта не спадабалася дагматыкам і яны падразаюць пісьменьніку крыльле — змушаюць перапрацаваць раман. На зьезьдзе пісьменьнікаў Пятрусь Броўка «павучаў» Караткевіча:

«У сваіх гістарычных рэчах аўтару трэба паказваць жыцьцё народу, менш захапляцца побытам князёў.»

Бясспрэчна — жыцьцё народу важнейшае за побыт князёў. Але калі беларускія школьнікі павінны вывучаць жыцьцё й дзейнасьць Навуходаносара, Александра Македонскага, Цэзара ды Пятра Першага, калі выкопваюць труп Івана Грознага і разважаюць колькі ён мог мець на носе барадавак, на што абураўся ў сваім вершы Максім Танк, дык чаму Беларусы ня маюць права ведаць нешта пра побыт сваіх князёў, тым больш што на гэтую тэму не напісана амаль нічога? Няўжо рэклямаваная ў Савецкім Саюзе «дружба народаў» ня вымагае, каб і да працоўных і да феадалаў, а таксама й да ўсяе гісторыі паасобных народаў падыходзіць з адной меркай?

Мы ўжо зьвярталі ўвагу нашых чытачоў на дыскусію, якая пачалася ў прэсе на Беларусі навокал таго, ці меў беларускі народ у мінулым сваю дзяржаву ці не, а таксама навокал пытаньня нацыянальнага характару Вялікага княства Літоўскага. Гэта — кардынальнае пытаньне, бо ворагі беларускага народу цьвердзілі й цьвердзяць, што Беларусы сваёй дзяржаўнасьці ніколі ня мелі, а таму, маўляў, Беларусь ня мае падставаў дамагацца дзяржаўнага існаваньня і ў сучаснасьці.

Якія-ж вынікі дасюлетняй дыскусіі на гэтую тэму, праводжанай ў савецкай прэсе?

Дыскусія пачалася ад рэцэнзіі Міколы Прашковіча на кнігу Коршунава «Афанасі Філіповіч». Мікола Прашковіч ў сваёй рэцэнзіі, зьмешчанай у 12-ым нумары часапісу «Полымя» за мінулы год, паказаў тую блытаніну, якую дапусьціў у сваёй кнізе Коршунаў з старымі гістарычнымі назовамі. Дарэчы, такую блытаніну мы сустракаем ня толькі ў Коршунава, але ўва ўсёй афіцыйнай савецкай гістарычнай літаратуры. Таму Мікола Прашковіч слушна пісаў:

«Не заўсёды Коршунаў ладзіць з тэрмінамі, ён неаднаразова сьцьвярджае, што беларусаў і ўкраінцаў прыгняталі «польскія і **літоўскія** магнаты», што Леў Сапега – «**літоўскі** канцлер», што Рэч Паспалітая — гэта «польска-**літоўская** дзяржава», і гэтак далей. Як магло здарыцца, што маленькі і зь менш разьвітай у тыя часы культурай літоўскі народ (прыкладна палова сьняняшняй этнаграфічнай Літвы знаходзілася пад уладай Лівонскага ордэну) захапіў вялізарныя прасторы беларускіх і ўкраінскіх зямель і прыгнятаў беларусаў і ўкраінцаў, якіх было разоў у дзесяць больш, чымся літоўцаў?

Ці сапраўды гэта так? У чым-жа справа? А справа, аказваецца, у назве — Вялікае княства Літоўскае. Калі-ж крытычна разабрацца ў гэтым пытаньні, то ўсё стане зразумела.»

Далей Прашковіч падае такія факты:

«...ўжо Ягайла і Вітаўт гаварылі толькі пабеларуску (а Ягайла нават пісаў лісты да Ядвігі на беларускай мове), дзяржаўнай мовай на тэрыторыі ўсяго княства была беларуская мова, эканамічную, палітычную і ваенную сілу дзяржаве давалі беларускія і ўкраінскія землі.»

Гэтыя заўвагі Прашковіча вельмі не спадабаліся партыйным дагматыкам, якім зацьверджаныя пастуляты важнейшыя за гістарычныя факты. У газэце «Советская Белоруссія» з 22-га лютага сёлета зьявіўся артыкул: «Істіне вопрекі», падпісаны асьпірантамі БДУ Люкевічам і Трашчонкам. Заняўшы пагрозьлівую позу, яны з дагматычнай нягалеранцыяй заявілі, што Вялікае княства Літоўскае ня было беларускай дзяржавай, што беларускі народ упяршыню ў сваёй гісторыі «здабыў дзяржаўнасьць толькі дзякуючы перамозе Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі».

Аднак на гэтым дыскусія ня скончылася. У пятым нумары часапісу «Полымя» на артыкул Люкевіча й Трашчонка адказаў беларускі навуковец Мікола Алексютовіч у сваім артыкуле пад загалоўкам «А дзе-ж ісьціна аб'ектыўная?» Алексютовіч падыйшоў да гэтага пытаньня з пункту гледжаньня марксызму-ленінізму. Ягоная аргумэнтацыя заслугоўвае на тое, каб зь ёй шырэй пазнаёміць нашых чытачоў. Алексютовіч пісаў:

«Ўсё... падводзіць нас да самага галоўнага пытаньня, якое ўзьнімаюць у сваім артыкуле Люкевіч і Трашчонак. Гэта пытаньне аб дзяржаве. Люкевіч і Трашчонак у адным месцы пішуць наступнае: 'Беларускі народ здабыў дзяржаўнасьць толькі дзякуючы перамозе Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі'. Калі-б аўтары ўдакладнілі: сацыялістычную дзяржаўнасьць — ня было-б повадУ для спрэчкі».

Вельмі трапная заўвага! Пасьля бальшавіцкай рэвалюцыі Беларусь апынулася ў СССР, дзе, прынамся намінальна, карыстаецца нейкім статусам гэтак званай «сувэрэннай» рэспублікі. Але гэта не азначае, што ў ранейшыя пэрыяды Беларусь не тварыла іншых, больш незалежных і самастойных, дзяржаўных фармацыяў. Пералічыўшы фактары, якія Энгельс і Ленін ўважалі неабходнымі для існаваньня дзяржавы, Алексютовіч ставіць пытаньне:

«Дайце цяпер паглядзім, ці было ўсё гэта, скажам, у Полацкім княстве або ў Турава-Пінскім? Бязумоўна, было, бо інакш яны не называліся-б княствамі. А паколькі гэтыя княствы існавалі не паза пpасторай, а на тэрыторыі сучаснай Беларусі, то мы павінны будзем прызнаць існаваньне дзяржаўных арганізацыяў на землях беларускіх яшчэ да ўтварэньня Вялікага княства Літоўскага.»

Гаворачы пра Вялікае княства Літоўскае, Алексютовіч піша:

«Што датычыць працэсу ўтварэньня Вялікага княства Літоўскага, то, на нашу думку, тут многа ёсьць яшчэ нявысьветленага. І гэтае пытаньне заслугоўвае таго, каб ім працягвалі займацца дасьледчыкі. Нам могуць запярэчыць, што існуе ўсталяваны пункт гледжаньня на гісторыю Вялікага княства Літоўскага і што ён зацьвердзіўся ў гістарычнай навуцы. Але гэта будзе адказ на пытаньне з 'зацьвярдзелых' гістарычных канцэпцыяў. Навука-ж таму і называецца навукай, што яна ня прызнае раз і на заўсёды выпрацаваных догм, пастулятаў.»

Далей Алексютовіч падае выказваньне Энгельса пра ягоны пагляд на гістарычную навуку:

«Усю гісторыю трэба пачаць вывучаць нанова. Трэба дасьледваць у дэталях умовы існаваньня розных грамадзкіх фармацыяў — перш чым спрабаваць вывесьці зь іх адпаведныя ім палітычныя, прыватнаправавыя, эстэтычныя, філязофскія, рэлігійныя і да таго падобныя погляды.»

Алексютовіч супраць таго, каб закрэсьліваць цэлыя пэрыяды гісторыі. Ён піша»

«Бадай, ніхто ня стане спрачацца з тым, што нельга проста ўзяць і закрэсьліць некалькі вякоў гісторыі беларускага народу толькі таму, што ў адпаведны час ня было яшчэ этнаграфічнага тэрміну «Беларусь». Вядома, што калісьці Італія называлася Рымскай дзяржавай, такасама, як напрыклад, Руская дзяржава — Масковіяй або Вялікім княствам Маскоўскім.»

Праанализаваўшы этнаграфічны склад Вялікага княства Літоўскага, Алексютовіч прыходзіць да высновы, што «...Вялікае княства Літоўскае па сваім этнаграфічным складзе і тэрытарыяльным прынцыпе было больш беларускай дзяржавай, чымся літоўскай.»

На аснове ранейсказанага Алексютовіч робіць выснаў:

«Люкевіч і Трашчонак, ухапіўшыся за назву «Вялікае княства Літоўскае» і не ўнікнуўшы ў ягоную сутнасьць (як яно ўзьнікла і чым было на самай справе), намагаюцца давесьці, што беларускі народ у мінулым ня меў сваёй дзяржаўнасьці. А мы лічым, што меў.»

Гэты свой выснаў Атексютовіч падмацоўвае яшчэ такімі фактамі:

«Люкевіч і Трашчонак, як відаць, надаюць геаграфічнай назве этнаграфічны характар, а гэта не адно і тое-ж. Яны заплюшчваюць вочы на тое, што на беларускіх землях гаспадарылі 'мясцовыя' паны і шляхта, што на вышэйшыя пасады Вялікага княства Літоўскага (канцлераў, ваяводаў і так далей) назначаліся, як правіла, уплывовыя беларускія магнаты (Сапегі, Радзівілы і так далей).»

Далей Алексютовіч заклікае сваіх апанэнтаў працягваць дыскусію. Прыгадаўшы спробу аб'яднаньня ў 1919 годзе савецкіх рэспублік Беларусі і Літвы ў адну дзяржаву на базе гістарычнай супольнасьці, Алексютовіч пытаецца:

«Няхай нам цяпер Люкевіч і Трашчонак адкажуць на пытаньне, што стаіць за гэтымі пастановамі? Толькі, калі-ласка, як сапраўдныя гісторыкі-дасьледчыкі, не ашукваючы і не абкрадаючы ні самых сябе, ні нашу гісторыю. З фактамі ў руках, адкінуўшы догмы і ярлыкі. Перш чым напамінаць аб «абавязках» другім, трэба памятаць аб сваіх абавязках — дакладна вывучаць факты і першакрыніцы.»

На заканчэньне свайго артыкулу ў пятым нумары часапісу «Полымя» Алексютовіч цытуе часапіс «Коммуніст». Ён піша:

«Вельмі слушна пішуць пра абавязкі гісторыкаў-марксыстых вучоныя Пашута і Чарапнін: 'Партыйнасьць гістарычнай навукі нічога агульнага ня мае з дагматызмам. Марксізм дае мэтад, тэорыю, ключ да абагульненьня фактычнага матарыялу, шырокіх навукова аб'ектыўных высадаў. Пераадоленьне дагматызму магчымае толькі ў працэсе самастойнага дасьледваньня першакрыніц. Гісторык, які не займаецца творчым вывучэньнем крыніц, не дасьледчык, а начотнік.»

Дзеля таго, каб прыйсьці да гістарычнай праўды, не абавязкова карыстацца марксыстаўскім навуковым мэтадам. Дастатковыя лягічнае разважаньне і аб'ектыўны падыход. Але, як гэта даказаў Алексютовіч, марксізм-ленінізм таксама ня супраць і нават вымагае грунтоўнага перагляду й пераацэны ўсёй гісторыі Беларусі.

Спробы беларускіх савецкіх гісторыкаў рэгабілітаваць гісторыю Беларусі натыкаюцца на перашкоды ня толькі з прычыны русафільскай тэндэнцыі маскоўскай палітыкі ў гістарычнай навуцы. Перашкаджае й фактычны стан дзяржаўна-адміністрацыйнага падзелу тэрыторыі Беларусі. Летувісы, атрымаўшы ад Масквы ўзамен за сваю незалежнасьць беларускую Віленшчыну зь Вільняй, пры падтрымцы тае-ж Масквы й без найменшых на гэта гістарычных і этнаграфічных падставаў перайменавалі старую беларускую сталіцу ў «Вільнюс» і перанесьлі ў яе сталіцу ЛССР. Гэты крывадушны гандаль беларускай зямлёй стварыў палажэньне, якое, з аднаго боку, яшчэ больш уводзіць у блуд неасьведамленых у нашай гісторыі, а з другога, ставіць пад пагрозу тых, хто хоча гаварыць праўду пра ўдзельную вагу й ролю Беларусаў і Летувісаў ў Вялікім княстве Літоўскім.

Апрача таго, ніводзін з беларускіх савецкіх гісторыкаў, у тым ліку й Алексютовіч, не адважыўся запярэчыць недарэчнай афіцыйнай вэрсіі, быццам беларускі народ ня меў ніякага іншага, большага жаданьня й імкнення, як аб'яднацца з расейскім народам у адной дзяржаве. Тое, што ў часы Вялікага княства Літоўскага беларускі народ вёў найбольш зацятае змаганьне якраз супраць Маскоўшчыны — ня прыгадваецца нідзе ніводным словам. Над гэтым пытаньнем вісіць катэгарычнае партыйнае табу.

**Ю. Дубовік**

---

палічыўся ні з чым — ні зь сям'ёю, ні з намі, ні, нарэшце, з сваім сумленьненм — і пайшоў на службу да ворага? Возьмем зноў Кандраценю! Як ён мог зацягнуць вас у сваё логава? Вы зноў скажаце, што ня ведаеце яго! Да часу мы даём магчымасьць гаварыць вам усё, што хочаце, але раней ці пазьней мы змусім вас загаварыць! Генадзя Кандраценю выкінула да нас Польшча. І, трэба сказаць, ён дабіўся тут, у нас, некаторых посьпехаў — знайшоў вас і такіх, як вы, пралез і ў больш далікатныя мейсцы. Спрабуе навет займацца палітыкай. Але ўсё гэта, бачу, для вас няцікава і мала зразумела. І я ня зьбіраюся доўга гаварыць пра гэта. Вы патрэбныя нам, як жывы чалавек, як доказ, як сьветка, як дэталь, — ведаеце, як вінцік ад машыны. Мы зьбіраем цяпер вялікую машыну і нам нехапае яшчэ шмат якіх вінцікаў-шрубак, такіх, як вы. Дык мы й пярэйдзем цяпер бліжэй да справы. Пачнем ад пачатку!

Палітыка ўзяў аркуш паперы, асадку і нарыхтаваўся запісваць.

— Значыць, Генадзя Кандраценю, кажаце, ня ведаеце? Так?

— Так.

— Так і запішам. Начзаставы, гавораце, ведаеце? Так?

— Так.

— Добра што прызнаецеся хаця ў вадным. Дапамагаў вам начзаставы пераводзіць людзей у Польшчу?

— Якіх людзей?

— Адказвайце на пытаньне!

— Не!

— Значыць, вы адны, бязь нікога пераходзілі граніцу?

— Не пераходзіў я граніцы!

— А ў Польшчы былі?

— Як не пераходзіў, дык і ня быў.

Палітыка ўськіпеў гневам і кінуў асадку на падлогу. Падыйшоў да Шаркевіча, замахнуўся рукой, але ня ўдарыў. Накіраваўся ў куток, дзе стаяла крэсла. Налёг на яго двума рукамі і пачаў сунуць яго да Шаркевіча. Паціху, ня зводзячы з яго вачэй. Шаркевіч ведаў, для чаго прызначаецца крэсла, але ўдаваў, што не баіцца. Сядзеў і чакаў. Быццам адумаўшыся, Палітыка нечакана пакіну ўкрэсла пасярэдзіне пакою і сеў за стол, падняўшы з падлогі асадку.

— У якім гэта гумне вы адсыпаліся ў Польшчы?

— Я спаў дома, выбачайце.

— На гэты раз вы адказалі не дасьціпна!

Разгневаны, Палітыка вомірг узьняўся і вышаў з-за стала. Гучным голасам пачаў каманду:

— Устаць!

Шаркевіч устаў.

— Сесьці!

Шаркевіч сеў.

— Устаць!

— Сесьці!

— Устаць!

— Сесьці!

— Устаць!

— Сесьці!

Шаркевіч садзіўся і ўставаў з хуткасьцяй, зь якой камандваў Палітыка. Ён ганяў Шаркевіча датуль, пакуль не змарыўся сам і ў зьнямозе аціх. Із стосу папераў, якія ляжалі на стале, дастаў папку і, разгарнуўшы яе, накрыў нешта ў ёй аркушам паперы, загадаўшы Шаркевічу прысунуцца бліжэй да стала:

— Глядзеце, што пад гэтым аркушам белай паперы?

Палітыка паціху ссунуў яго ўніз да сябе, можа якіх на адзін сантымэтр. Зпад аркуша паперы паказаліся валасы.

— Хто гэта?

— Не пазнаю па валасох.

Палітыка яшчэ больш пацягнуў уніз аркуш паперы — паказалася верхняя часьць ілба.

— Хто гэта?

— Ня ведаю. Балван нейкі.

Палітыка сьцягваў аркуш паперы ніжэй — паказаліся густыя бровы.

— Хто гэта?

— Нехта, ткі знаёмы, але не прыпамінаю.

Палітыка паказаў болей — глянулі вочы... Чые-б вы думалі? Вочы Шаркевіча!

— Хто гэта?

Не дачакаўшыся адказу, Палітыка ўдарыў Шаркевіча ў твар. У Шаркевіча з носу пайшла кроў. Але тым ня менш, Палітыка, ўзяўшы з папкі фатаграфію, паднёс яе пад самы нос Шаркевічу і голасам, у якім чулася вялікае задаваленьне і перамога, сказаў:

— А вось і тое гумно, пра якое я пытаўся. Бачыце?

Шаркевіч маўчаў.

— Вы хадзілі ў Польшчу?

Шаркевіч не адказваў.

— Хадзілі, пытаюся?

— Што-ж тут пытацца!

— Не, я хачу, каб вы мне сказалі проста. Хадзілі?

Шаркевіч, выпрастаўшыся на сваім крэсьле і гледзячы ў вочы Шалітыцы, цьвёрда адказаў:

— Хадзіў!

*(Працяг будзе)*

---

# Кіеўская Русь ці незалежнае Полацкае Княства

Апошнімі гадамі савецкія гісторыкі пачалі пераглядаць свае канцэпцыі адносна Кіеўскай Русі. Гэтая раней разглядалася імі як сцэнтралізаваная «старажытнаруская дзяржава», якая выключала наяўнасьць або магчымасьць станаўленьня ў тыя часы іншых якіх-колечы ўсходнеславянскіх нацыянальна-дзяржаўных твораў. У гэтых адносінах асаблівую цікавасьць мае праца Інстытуту гісторыі Акадэміі навук СССР, выдадзеная ў 1965 годзе пад назовам **Древнерусское государство и его международное значение.** Сярод ейных аўтараў ёсьць ведамыя савецкія гісторыкі, як А. П. Навасельцаў, В. Т. Пашута й Л. В. Чэрапнін.

Праўда, у названай працы таксама моцна прасочваецца тэндэнцыя ня толькі ўгледжваць у Кіеўскай Русі «супольную» для ўсходнеславянскіх народаў дзяржаву, што ў тых ці іншых формах здолела захаваць сваё «адзінства», але й разглядаць пазьнейшую Расею, а, значыцца, і Савецкі Саюз, як простых спадкаемцаў першае. Аднак вялікае значэньне мае для нас зробленае тут-жа асьветчаньне, што працэс утварэньня Кіеўскай Русі «фактычна яшчэ ня вывучаны». Далей у гэтай працы абгрунтоўваецца даволі праўдзівае дапушчэньне адноснатаго, што ў эпоху, якая папярэднічала ўтварэньню Кіеўскай Русі, на землях сяняшніх усходнеславянскіх народаў існавалі паасобныя палітычна-дзяржаўныя творы — княствы ці саюзы паасобных славянскіх і зьвязаных зь імі неславянскіх земляў. На поўначы такімі княствамі ці саюзамі былі ноўгарадзкая Славенская зямля й полацкая Крывіцкая зямля. Увайшоўшы ў склад Кіеўскай Русі, сфармаваньне якое адносіцца да гадоў княжаньня Ўладзімера Сьвятога й Яраслава Мудрага (980—1054 гг.), гэтыя княствы ці саюзы прытрымоўваліся сваіх ранейшых традыцыяў і карысталіся даволі шырокай палітычнай аўтаноміяй. Адным словам, Кіеўская Русь нагадвала сыстэму Нямецкай Сьвяшчэннай імпэрыі.

Між іншым, падобную канцэпцыю яшчэ ў 1960 годзе разьвіваў ведамы савецкі гісторык-архіялёг Б. Рыбакоў падчас XI Міжнароднага кангрэсу гістарычных навук у Штакгольме. У васнаўным ён паўтарыў яе таксама ў сваёй працы «Первые века русской истории» (Масква, 1964). Паводля Б. Рыбакова працэс распаду Кіеўскай Русі пачаўся ўжо ў XI стагодзьдзі.

*Ад Рэдакцыі:* Ніжэй зьмяшчаем праблемны артыкул П. Вішнеўскага на старую, але заўсёды актуальную тэму. Спадзяемся, што ён выкліча на старонках нашай прэсы канструктыўную дыскусію.

# Царква — народ — дзяржава

*

Жывем мы ў пару дынамічна зьменную, а таму няпэўную, крызысовую. Старыя, асьвячаныя традыцыяй вартасьці, звычаі й законы людзкога сужыцьця паддаюцца крытычнай пераацане ды замяняюцца новымі крытэрыямі, заснаванымі на новых прынцыпах. Як ведаем, Царква, або арганізаваная рэлігія, абапіраецца на спрадвечных і нязьменных прынцыпах, як нязьменны ёсьць той, у чыё імя яна існуе і дзеіць сярод людзей. Гэтага нельга сказаць пра стаўленьне царквы, як людзкай арганізацыі. да таго асяродзьдзя, у якім яна працуе, гэта значыць да грамадзкасьці, народу і да цывільнай улады — да дзяржавы. У гэных дачыненьнях царква праявіла ўсе слабасьці людзкой натуры, якія замінаюць чалавеку ў ягоным адвечным імкненьні да дабра й шчасьця.

Рэлігія ёсьць вялікай сілай у людзкім жыцьці. З гэтым згодныя — праўда, кажны на свой лад — усе вялікія мысьліцелі мінулага і сучаснасьці — роўна, як ейныя прыхільнікі, так і ворагі. Вера ў Бога, культ надпрыроднай творчай сілы, ёсьць адным з тых агульных фактараў, якія ад няпамятных часоў на працягу тысячагодзьдзяў усьцяж мелі вялікі ўплыў на фармаваньне людзкога сьветагляду, а затым і на ўсё жыцьцё грамадзтва. Доказам гэтага ёсьць дзіва-годная жывучасьць рэлігіі ў самых жудкіх абставінах дзікага перасьледу: усіх нас зьдзіўляе стойкасьць веры першых хрысьціянаў у калішняй імпэрыі паганскага Рыму, роўна як і нашых братоў у сучаснай імпэрыі бязбожнае Масквы. Як бачым з гэтых прыкладаў, сіла людзкой веры не абавязкова ідзе ў пары з сілай царкоўнай арганізацыі.

Тым ня менш, як ні дзіва, у вялікай сіле рэлігійнага перакананьня хаваецца небясьпека як для царквы, так і для народу. Бяда ў тым, што відавочная і бясспрэчная сіла веры заўсёды прыцягвала да сябе ня толькі тых, што шукалі ў ёй цяпла й збаўленьня душам сваім, але й тых хітра-мудрых махінатараў вялікага закрою, якім заўсёды здаецца, што ня так ужо й цяжка ахітрыць Бога, а яшчэ лягчэй паставіць сабе ў служкі Яго пакорных паклоньнікаў... Вось-жа, асабліва там, дзе ёсьць гэтак званая дзяржаўная рэлігія, сьвецкая ўлада, часта із згодай і з дапамогай царкоўных дзейнікаў, усякімі спосабамі намагаецца выкарыстаць сілу рэлігійных пачуцьцяў у народзе дзеля рэалізацыі немаральных рэлігійных схемаў. Нам, Беларусам, добра ведама, да якога страшнага гвалту над чалавечым сумленьнем такія крутельствы могуць давесьці, бо мы адзін з тых народаў, што гістарычна бадай найбольш пацярпелі ад нягодных рэлігійна-палітычных маніпуляцыяў у мінулым, ды ўсё яшчэ церпім... І трэба дзівіцца, што пасьля ўсяго гэтага народ наш не апынуўся на дне бяспрынцыповага цынізму й атэізму, ды што захавалася сярод нас столькі глыбока веруючых людзей. З увагі на ўсё гэта, а таксама на чакаючыя нашу адроджаную нацыю палітычныя й рэлігійныя праблемы будучыні, нам трэба пацікавіцца наагул пытаньнем дзяржаўнай рэлігіі і прасачыць шляхі, якімі яна гістарычна разьвівалася ў розных народаў ды, урэшце, пастарацца вывесьці жыцьцём абгрунтаваныя высновы. Зь нястачы месца абмяжуемся ў нашых разважаньнях толькі да тых народаў, гісторыя якіх з таго ці іншага глядзішча нас блізка датычыць; у мінулым гэтых народаў дзяржаўная царква, або яе адсутнасьць, адыграла важную ролю.

На пачатак павернем нашу ўвагу на ўсход ад Беларусі — на Маскву, гэтага заклятага ворага ўсяго, што беларускае. Тут мы знаходзім самы клясычны прыклад дзяржаўнай царквы ўсіх часоў, але таксама перад намі раскрываецца нячуваная веліч народнай трагедыі, якую пакінула ў спадку па сабе былая царская імпэрыя. Царква тут заўсёды бытавала ў цяні сьвецкай улады. Як ведама, гістарычны шлях усходняй царквы прайшоў зусім адменнымі каляінамі, чымся шлях заходня-лацінскай. У той час, калі заходняя царква, стварыўшы моцна цэнтралізаваную сыстэму, змагла ўступіць у працяглае, і парой удачнае, змаганьне за супрэмацыю над сьвецкімі ўстановамі гаспадарства, — на ўсходзе, у абставінах арганізацыйнага царкоўнага раздробленьня і адвечных традыцыяў арыентальнага абсалютызму, царкоўны цэнтралізм ніколі ня меў патрэбнага грунту для свайго разьвіцьця. Асабліва яскрава факт гэты праявіўся ў гісторыі Маскоўшчыны, дзе з раньніх вякоў цары мелі вырашальны голас у найважнейшых справах царквы. Звычайна цары ведалі, як выкарыстаць сваё дамінуючае становішча дзеля сваіх палітычных асьпірацыяў. Дацэньваючы сілу рэлігійнага фактару ў працэсе кансалідацыі здабытай агнём і мячом імпэрыі, яны беспардонна ўпраглі праваслаўную царкву ў гэтую непачэсную працу, што яўна йшла ў разрэз з асноўнымі рэлігійнымі заданьнямі ды з маральна-этычным становішчам царквы як такой. Але дасюль неяк ня было чуваць, каб расейская царква калі-небудзь запратэставала супраць гэтага гвалту над ейным духовым пасланьніцтвам, над ейнай сьвятасьцяй. Наадварот, ёсьць аж залішне доказаў на тое, што русыфікацыйная акцыя на нашых землях вялася расейскай царквой з уласнай ініцыятывы. Таксама нельга сказаць, каб расейская царква калі-колечы старалася захаваць хоць-бы нэўтральнасьць у адвечных намаганьнях Масквы зьнішчыць беларускі народ як нацыю, разграбіць наш матарыяльны й духовы даробак, прысабечыць нашу гісторыю, ды асlabіць нашу біялягічную субстанцыю. Дзе там. Царква гэтая ня толькі цэлым сваім аўтарытэтам апрабавала (ды ўсё яшчэ апрабуе ..) гэтыя шалёныя замыслы адзічэлага расейскага шавінізму, але самахоць брала самы жывы ўдзел у няслаўных, часта крывавых, спробах іхнага зрэалізаваньня. Нам ня ведамы ніводзін гістарычны выпадак, калі-б расейская царква выявіла ваю спагаду да пакрыўджанага беларускага люду ды выступіла супраць бязлітаснай, крывадушнай і бясконца прагавітай улады. Уся гэтая сумная гісторыя складае сабой нязьбітае сьвядоцтва таго, што расейская царква, даўнейшая й сучасная, цалкам абдыкавала са свае маральнае адказнасьці перад Богам і чалавецтвам як Хрыстовая паўнамоцніца й абароньніца Праўды Ягонае. Праз стагодзьдзі адно вонкавая форма асталася. Расейская царква найбольш руліцца толькі пра сваё «кананічнае» захаваньне. Аб патрэбе-ж адраджэньня ў ёй праўды Божай, аб выгнаньні зь ейнага ўлоньня крывадушнасьці й гіпакрызіі пакуль-што ня чутно. Часам бесстаронны наглядальнік мусіць прыйсьці да высноваў, што гэта ёсьць найдзіўнейшая царква ў сьвеце.

Другой такой няма..., бо ў ніводнага з сучасных нам народаў, якім давялося ствараць свае каляніяльныя імпэрыі, царква такой нізкай ролі не адыграла. Толькі ў Расейцаў царква як ішла, так і йдзе да сяньняшняга дня на імпэрыялістычным павадку — згодная ня толькі пакрываць гвалт над людзкім сумленьнем, народазабойства й маральную гніль, але й актыўна спрыяць актам бяспраўя — усё, каб толькі прадоўжыць і апраўдаць існаваньне тае фікцыі «Матушкі Росіі», якая ня ёсьць «Росіяй»... Гора таму, хто занепадзе душой і захварэе на «ідэю фікс» — гора чалавецтву, калі здарыцца гэта з цэлай нацыяй. Жахлівыя падзеі Другой сусьветнай вайны добра ілюструюць гэтую праўду, а расейская гісторыя яшчэ папраўляе. Усім ведама, якую вялікую цану заплаціў ужо расейскі народ за «ідэю фікс» сваіх палітычных маньякоў: «Матушка Росія» ёсьць, але жыцьця ў ёй няма нікому... А тымчасам гэная закаранелая вякамі ў расейскай псыхіцы цынічная гіпакрызія і той паўсёдзённы страх перад праўдай, што пранікаюць усё жыцьцё Расейцаў і змушаюць іх у большай ці меншай меры ізалявацца ад рэшты сьвету, ёсьць запраўдным анахранізмам у сучасную мадэрную пару, у якую ўжо буйна закрасавалі агульналюдзкія ідэі экумэнізму ды павеяў дух адраджэньня праўдзівай хрысьціянскай любові між людзьмі, народамі й расамі. Як доўга яшчэ ў гэтай новай, адсьвежанай агульналюдзкай атмасфэры Расейцы змогуць далей упарта весьці сваё разбойніцтва ў сусьветным маштабе? А, здаецца, так доўга, пакуль зноў не пачуюць цьвёрдага маральнага грунту пад нагамі, а ў скамянелых сэрцах іхных ды ачмуцелых галовах не праясьніцца простая ідэя, што ёсьць далёка лепшыя й карацейшыя шляхі да праўды й шчасьця, чымся народазабойства й гвалт... Даць ім гэтыя новыя маральныя падваліны ды паказаць ім тыя новыя шляхі да славы можа толькі адроджаная расейская царква. А для гэтага ёй самой трэба ачысьціцца ад цяжкіх грахоў мінулага і перарадзіцца — аб чым і прыходзіцца прасіць Ласкі Божае.

Падкрэсьліўшы так у кароткім зарысе галоўныя мамэнты характэрныя для расейскай царквы ды жалюгодныя вынікі ўтраты ёй свайго рэлігійнага пасланьніцтва, скіруем цяпер наш позірк на захад. Тут рыма-каталіцтва, стаўшы пануючай рэлігіяй Польшчы, ужо з канца XIV стагодзьдзя ўзяло на сябе, побач із галоўнай рэлігійнай, яшчэ «дадатковую» палітычную місію пашыраньня польскасьці на землях Вялікага Княства Літоўскага. У гэтым выпадку, як бачым, нават факт фармальнай незалежнасьці каталіцкай царквы ад польскіх і літоўскіх дзяржаўных дзейнікаў не ўсьцярог яшчэ ад маральнага блуду. І тут, зусім як у Маскоўшчыне, на справе царква сама дабраахвотна зракаецца свае высокае і канчальнае адказнасьці ды трапляе ў крывадушнае кола: Вонкава ўся праца вядзецца ў імя Хрыста й высокіх прынцыпаў Ягонае навукі, а на справе царква безаглядна гразьне ў палітычным авантурызьме, сукрытай мэтай якога ёсьць пазбаўленьне людзей свабоды ды заграбленьне чужой зямлі і ўласнасьці. Цяжкое гэта абвінавачаньне, але праўдзівае. Праходзілі стагодзьдзі, а Палякі ўсё далей і далей праз каталіцкую царкву пашыралі свае ўплывы ў Вялікім Княстве. І парой здавалася, што польская царква ўдачна выканае сваё ганебнае заданьне апалячаньня Беларусаў, што Палякам ўдасца дасягнуць сваіх захопніцкіх мэтаў на нашых землях. Ды ня суджана ім было гэта... Пад канец XVIII веку з усіх бакоў, як тое груганьнё, зьляцеліся ворагі і Палякі страцілі ня толькі тое, што нарабавалі, але й сваё ўласнае: Польшча зьнікла з карты Эўропы, быццам як ніколі й ня было...

Здавалася-б, даволі было тае навукі, каб апамяталіся. Так, ды ня зусім... Бо калі ў 1918 годзе пры дапамозе Захаду ўдалося ім нанова скалаціць тую «Польску», справы пайшлі па старой сьцежцы: пальская царква зноў рупна бярэцца за не сваю справу, толькі з падвойнай зацятасьцяй. Забыты быў ідэялізм рэвалюцыянэраў-змагароў, што падымалі зброю супраць дэспатычнай Расеі ды паміралі «За вашу і нашу волю», адкінутыя былі самыя элемэнтарныя прынцыпы гуманнасьці й справядлівасьці. Пры поўнай апрабацыі і з актыўным удзелам вышэйшай касьцельнай гіерархіі беларускія каталіцкія сьвятары перасьледуюцца зь нялюдзкай жорсткасьцяй — урэшце змушаныя пакінуць свой народ і родны край. На ўсёй Заходняй Беларусі не застаецца ніводнага касьцёлу, дзе-б людзі маглі пачуць навуку на роднай беларускай мове. Зноў пачынаюцца гордыя самахвальствы пра хуткае й канчатковае вынішчэньне Беларусаў у межах Польшчы, ды што «яшчэ будуць араць зямлю за Смаленскам польскія плугі...» Ды раптам, неяк нечакана, ляснуў пярун зь яснага неба — і зноў зьнікла Польшча, як тая мара-здань... І праўда, загаралі зямлю за Смаленскам — толькі ня польскімі плугамі ды гаралі яе не пад семя Божае, а каб замаскаваць злачынства: брацкія магілы, у якіх на векі супачыла больш за 10 тысяч афіцэраў — цьвет былой польскай арміі... Такой ёсьць гіронія нязьведанага лёсу; так Бог вучыць тых, хто махае рукой на Ягоныя ціхія напамінаньні ды каму цяжка пагадзіцца зь Ягонымі вечнымі законамі.

Сяньня сусьветнае каталіцтва ўступіла у фазу арганізацыйнага й духовага абнаўленьня, рэнэсансу, які ўсё цывілізаванае чалавецтва з радасьцяй вітае. Нам Беларусам, зь вядомых прычынаў, даводзіцца цешыцца з гэтага падвойна, бо для нас поўнае паразуменьне паміж дзьвюма галоўнымі рэлігійнымі плынямі ў нашым народзе мае вялізэзнае значэньне на далёкую мэту. З усяго, што даходзіць да нас з сяньняшняй «Польскі Людовай», можна зрабіць выснаў, што, у процілежнасьці да расейскай царквы, сучасная каталіцкая царква ў Польшчы, хоць і нясьмела, стараецца йсьці за гэтым новым духам часу. Першы раз ад свайго заснаваньня 1000 год таму, гэтая царква страціла сваё ўпрывіляванае становішча і змушана весьці цяжкое змаганьне як за сваё існаваньне, так і за хрысьціянскі ідэал жыцьця. І трэба прызнаць, што, зноў у адрозьненьне ад расейскай царквы, польскі касьцёл дастойна прыняў арагантскі выклік бязбожнай дзяржаўнай улады — змагаецца ён адкрыта й гераічна. Ёсьць надзея, што ў вагні гэтага змаганьня ён канчальна ачысьціцца ад цяжкіх блудаў мінулага і ўрэшце стане тым, чым царква мае быць, гэта значыць праўдзівай астояй хрысьціянства і Праўды Божае. Але гэта пакуль што толькі надзея..., бо дасюль няма ніякага знаку, каб польская царква ў чым-небудзь зьмяніла свае абсурдныя адносіны да Беларусаў. Хоць Беларусы ў сучаснай Польшчы маюць свае школы, свае арганізацыі, газэты і т. д., польскі касьцёл ўсё яшчэ іх не заўважае; у ваччу касьцельных дзейнікаў яны проста ня існуюць — старая, усім вядомая казка. — Такім чынам нашы каталікі ў Польшчы пазбаўлены сваёй рэлігійнай абслугі і пэрспэктывы на яе ў будучыні вельмі малыя. Як ведама, польская гіерархія адмовілася выканаць тыя пастановы II-га Ватыканскага Сабору, якія дазваляюць ўвядзеньне жывой мовы ў службу Божую. Гэтым, відаць, яна спадзяецца адапхнуць як найдалей у будучыню дзень разьліку з сваім сумленьнем. Пасьля ўсіх тых балючых лекцыяў гісторыі, здаецца, трэба было-б спадзявацца крыху больш дальназоркасьці ад людзей, якія лічаць сябе культурнымі й маральнымі. Запраўды, непапраўнай

(Працяг на 6-ай бач.)

Яна распадалася на аснове выдзяленьня зь яе ранейшых княстваў і плямённых саюзаў. У выпадку Полацкага княства ён гаворыць пра ягонае «абасобленае жыцьцё» й «незалежнасьць» ужо за часоў княжаньня Ўсяслава Брачыславіча (1044—1101). Адным словам, яшчэ задоўга да мангольскіх заваёваў на развалінах «імпэрыі Русі» ўзьнікла некалькі самастойных гаспадарстваў, «раўназначных заходняэўрапейскім каралеўсвам».

На фоне гэтых навейшых канцэпцыяў савецкай гістарыяграфіі мы й хочым закрануць пытаньне Полацкага княства. І гэта тым больш, што ў гэтым пытаньні савецкія гісторыкі шмат чаго не дагаварваюць і цяпер.

Полацкае княства ўключала ў сябе даволі абшырную тэрыторыю полацкіх і наднёманскіх Крывічоў і Дрыгвічоў сяняшняе цэнтральнае Беларусі з такімі гарадамі, як Райгорад, Візна, Горадня, Зьдзітаў, Ваўкавыск, Наваградак, Крывіч-горад (Вільня), Слонім, Менск, Стрэшын, Ворша, Віцебск, Усьвят і іншыя. Прынамся да 978 году яно жыло сваім незалежным палітычным жыцьцём. Пра гэта сьветчаць летапісы, паведамляючы, як у сваіх спрэчках кіеўскі князь Яраполк і ноўгарадзкі князь Уладзімер імкнуліся перацягнуць на свой бок полацкага князя Рогвалада. Паведамленьне тых-жа летапісаў пра тое, што ў пачатку IX стагодзьдзя Полацак падпарадкаваўся кіеўскаму князю Алегу, даволі няпэўнае. Пра гэта ў летапісах гаворыцца ў сувязі з паходам Алега на Канстантынопаль у 907 годзе й заключанай зь Бізантыяй у гэтым-жа годзе гандлёвай умовай. Аднак-жа такога паходу ў гэтым годзе ня было. Летапісец яго схвабрыкаваў на аснове іншых паходаў. Не магло быць падобнага характару й гандлёвай умовы з гэтага году. Пераказваючы зьмест гэтае ўмовы, летапісец паведамляе, што Алег змусіў Бізантыю плаціць падатак «рускім гарадам», у тым ліку й Полацку, і змусіў яе гэта зрабіць, стаячы пад сьценамі Канстантынопалю. Аднак, калі ня было паходу Алега на Канстантынопаль, значыцца не магло быць і такое, накінутае сілай, гандлёвай ці прымірэнчай умовы. Дарэчы, усё гэта адсутнічае ў гандлёвай ўмове 911 году, зноў-жа падпісанай у выніку Алегавага паходу.

Ня можна ўключаць Полацкае княства ў склад Кіеўскай Русі й на падставе сьветчаньняў бізантыйскага імпэратара Канстантына Парфіражанэта. Гаворачы пра Крывічоў, якія «плацілі даніну Русі», ён праўдападобна, меў на ўвазе смаленскіх Крывічоў, у сувязі з чым і называе Смаленск. Б. Рыбакоў уважае, што ўспомненыя Канстантынам Парфіражанэтам «Ленцаніны» былі ўзапраўднасьці **Палачане.** Але падобнае дапушчэньне неверагоднае.

Няясным пэрыядам у гісторыі Полацкага княства зьяўляецца адрэзак 978—1021 гадоў. У летапісах (кіеўскага паходжаньня) гаворыцца, што ў 978 годзе ноўгарадзкі князь Уладзімер Сьвятаславіч напаў на Полацкае княства, перамог яго, забіў князя Рогвалада зь ягонымі двума сынамі, а дачку Рагнеду сілай узяў сабе за жонку. Полацкае княства было прылучанае да Кіеўскай Русі. Потым, калі Ўладзімер прыняў хрысьціянства й адхіліў ад сябе Рагнеду, ён выслаў гэтую «гордую палачанку» з сынам Ізяславам у свой родны Полацак, вярнуўшы ёй адначасна й Полацкае княства. З гэтага часу, як паведамляюць летапісы, «Рогваладавы ўнукі ўзьнімаць свой меч супраць унукаў Уладзімера». Бязумоўна, Уладзімер Сьвятаславіч ці Сьвяты мог заваяваць Полацкае княства, аднак непраўдападобнай застаецца легенда пра Рагнеду (яна нагадвае вядомую Карсуньскую легенду). Мнагазначнай застаецца й канстатацыя летапісаў, зь якой прычыны і ад якога часу ўзьнікла варажнеча між Полацкім княствам і Кіеўскай Русьсю. Варажнеча магла ўзьнікнуць не із-за Рагнеды, а з прычыны забойства князя Рогвалада або часовае ліквідацыі незалежнасьці Полацкага княства.

У сувязі з гэтым хочацца зьвярнуць увагу й на наступны факт. Як паведамляецца ў летапісах, Рагнеда вярнулася ў Полацак з сваім сынам Ізяславам, якому, фактычна, было перададзенае зьверхніцтва ў Полацкім княстве на праве залежнасьці ад Кіеўскай Русі. Калі радзіўся Ізяслаў, няведама, аднак ён памёр у 1001 годзе, пакінуўшы ўжо двух сыноў — Брачыслава й Усяслава. Як паведемляецца ў тых-жа летапісах, Усяслаў памёр у 1003 годзе. Значыцца, ён памёр яшчэ дзіцём. Але згодна тагачаснай практыкі, летапісы ніколі не паведамлялі пра сьмерць дзяцей, у тым ліку й пра сьмерць дзяцей вялікіх кіеўскіх князёў. Ці маглі яны зрабіць вынятак для дзіцяці полацкага князя? Нам здаецца, што не. Дарэчы й названы сын Рагнеды Ізяслаў магчыма памёр яшчэ юнаком, ня маючы дзяцей. Такім чынам тут можа быць зусім праўдападобным прыпушчэньне, што Брачыслаў і Ўсяслаў былі якраз тымі сынамі Рогвалада, якіх быццам разам з бацькам забіў Уладзімер Сьвятаславіч. Пра гэта сьветчаць і іхныя чыста полацкага паходжаньня імёны. Паведамляючы-ж пра сьмерць Усяслава ў 1003 годзе, летапісец меў на ўвазе не юнака Ўсяслава, а дарослага й добразнанага полацкага князя, які княжыў тут пасьля сьмерці свайго бацькі Рогвалада.

Аднак дапусьцім, што ў пэрыядзе 978—1021 гадоў Полацкае княства запраўды прызнавала зьверхніцтва Кіеўскай Русі. Гэта замалы адрэзак часу, каб рабіць выснаў, быццам Полацкае княства на працягу стагодзьдзяў тварыла адзінае дзяржаўнае й нацыянальнае цэлае зь Кіеўскай Русьсю. Прычым гэты адрэзак яшчэ скарачаецца ў сувязі з паваротам у Полацак прыблізна ў 988 годзе княгіні Рагнеды, калі, згодна летапісаў, і пачалася «ўзаемная варажнеча».

Як ведама, у 1021 годзе полацкі князь Брачыслаў выступае ўжо як самастойны князь з сваёй самастойнай палітыкай. У гэтым годзе ён нападае на Вялікі Ноўгарад, помсьцячы, праўдападобна, за 978 год або ў вадказ на адарваньне ад Полацкага княства Віцебскай і Ўсьвяцкай земляў, што ажыцьцявіў незадоўга перад гэтым кіеўскі князь Яраслаў Мудры. Апошні быў змушаны вярнуць Полацкаму княству гэтыя абедзьве зямлі.

Эпоха Ўсяслава Чарадзея, сына Брачыслава, якая прыпадае на 1044—1101 гады, прызнаецца й савецкімі гісторыкамі, пайменна Б. Рыбаковам, як эпоха поўнай незалежнасьці Полацкага княства. Тады-ж наступае распад Кіеўскай Русі, што ў аднолькавай ступені адносіцца таксама й да Полацкага княства. Эпізод 1127—1132 гадоў, калі Полацкае княства было заваяванае Кіеўскай Русьсю й знаходзілася ў залежнасьці ад кіеўскага князя, ня мае вялікага значэньня.

Гэтая амаль неперарыўная палітычная незалежнасьць Полацкага княства, а потым і ягоных паасобных земляў, сьцьвярджаецца й чужымі яму летапісамі. Яны ніразу не гавораць пра тое, што калі-небудзь Полацкае княства змушанае было плаціць які-колечы падатак Кіеўскай Русі. Ад іх мы даведваемся пра вышыню падатку, які, напрыклад, плацілі Вялікі Ноўгарад і Смаленск, але ні слова не гаворыцца ні пра памер падатку, ні пра ягоны характар, які быццам плаціла Полацкае княства. Таму ня дзівіць, што аўтар «Слова аб палку Ігаравым» ня толькі супрацьставіць дынастыю полацкіх князёў дынастыі кіеўскіх князёў, але й Полацкае княства Кіеўскай Русі.

Названыя вышэй сучасныя канцэпцыі савецкіх гісторыкаў уносяць шмат карэктываў у паняцьце «Кіеўская Русь» і насьвятленьне гісторыі Полацкага княства. Аднак што да апошняга й ягоных суадносінаў зь Кіеўскай Русьсю трэба яшчэ зрачыся тэндэнцыйных нацяжак пра іхную «дзяржаўна-нацыянальную супольнасьць», бо гэтае супольнасьці фактычна ня існавала. Трэба адкінуць таксама й ужываньне да Полацкага княства тэрміну «русь». І ня толькі таму, што, як прызнае, напрыклад, Б. Рыбакоў, гэты тэрмін даўжэйшы час стасаваўся да сьціплае прыдняпроўскае Русі й толькі значна пазьней пашырыўся на іншыя землі. Але й таму, што, жывучы сваім самастойным палітычным жыцьцём і разьвіваючыся на асноўнай беларускай тэрыторыі, яно было, калі абстрагавацца ад тэрмінаў «крывічы» й «ліцьвіны», **беларускай** дзяржавай.

**П. Урбан**

# „Справа“ Васіля Быкава

Пад абстрэл савецкай партыйнай крытыкі трапіў беларускі пісьменьнік Васіль Быкаў. Быкаў пісьменьнік сярэдняга пакаленьня. Апошнюю вайну правёў на фронце ў шэрагах савецкай арміі, пазнаў усе жахі ваеннага катаклізму. Ягоныя пяць аповесьцяў прысьвечаныя ваеннай тэматыцы. Партыйным крытыкам асабліва неспадабаўся апошні надрукаваны твор Быкава — аповесьць «Мёртвым не баліць».

Першым супраць Быкава выступіў на старонках газэты «Звязда» партыйны крытык Якаў Герцовіч, закасьцянелы дагматык, пагромшчык новых ідэяў, плыняў і мэтадаў у сучаснай беларускай савецкай літаратуры, які, дарэчы, спрычыніў нямала шкоды іншаму таленавітаму беларускаму пісьменьніку — Уладзімеру Караткевічу.

Герцовіч абвінавачваў Быкава, што ў аповесьці «Мёртвым не баліць» пісьменьнік разглядае ваенныя падзеі з пазыцыяў «абстрактнага гуманізму», што ён сканцэнтраваў увагу на адмоўных тыпах савецкіх ваенных камандзіраў — прадукце эпохі сталінізму.

Але далёка ня ўсе разважалі так, як Герцовіч. За надзвычай рэалістычны, праўдзівы паказ падзеяў вайны аповесьць «Мёртвым не баліць» была ў міжчасе перакладзеная на расейскую мову і апублікаваная ў прагрэсыўным расейскім літаратурным часапісе «Новый мір», рэдактарам якога зьяўляецца Твардоўскі. На Быкава павялі нагонку і ў Маскве. У атмасфэры «халодных вятроў», што павеялі ў савецкай літаратуры пасьля суровых прысудаў пісьменьнікам Сіняўскаму й Даніелю, такія напады на Быкава станавіліся пагрозьлівымі. Беларускія літаратурныя колы, навучаныя трагічнымі вынікамі падобнага крытыканства ў часы сталінскіх чыстак, праявілі салідарнасьць з сваім калегам і выступілі ў ягоную абарону. Пры абмеркаваньні аповесьці ў Інстытуце літаратуры Акадэміі навук БССР, аповесьць была ацэненая, як станоўчая. Гэта выклікала абурэньне газэты «Советская Белоруссія». У даўгім рэдакцыйным артыкуле, напісаным, як выглядае, тым-жа Герцовічам, побач з асуджэньнем гэтым разам ужо ўсяе творчасьці Быкава, гаварылася, што «ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы, дзе адбывалася абмеркаваньне аповесьці Васіля Быкава «Мёртвым не баліць», прынцыповую размову падмянілі курэньнем фіміяму аўтару і абаронай ягоных паважных памылак».

Тымчасам з асуджэньнем «памылак» Быкава выступіла маскоўская «Правда», а таксама часапіс «Огонёк» і вайсковы друкаваны орган «Красная звезда». Прадстаўнікі арміі нападалі на аўтара »Мёртвым на баліць» за быццам тэндэнцыйны й фальшывы паказ у творы савецкіх ваенных кадраў.

Ня было ніякага сумлеву, што справа Быкава будзе прадметам абмеркаваньня на надыходзячым V-ым зьезьдзе пісьменьнікаў Беларусі. Зацікаўленыя нецярпліва чакалі зьезду. Але ўжо перад зьездам у артыкулах, зьмешчаных у беларускай прэсе, падкрэсьлівалася, што памылкі-памылкамі, але Быкаў таленавіты пісьменьнік і ён парадуе чытачоў яшчэ не адным выдатным творам.

V-ты зьезд Саюзу пісьменьнікаў Беларусі пачаўся 12-га травеня. У прэзыдыюм зьезду, побач з прадстаўнікамі партыі і ўраду, выдатнейшымі беларускімі пісьменьнікамі й гасьцямі, быў паклікаўны і Васіль Быкаў. Гэты жэст паказваў на тое, што пісьменьніцкая арганізацыя Беларусі стаіць на баку свайго раскрытыкаванага пратыйнай прэсай сябры.

Зьезд адкрыў уступным словам старэйшы пісьменьнік Кандрат Крапіва. Ён між іншага гаварыў: «... пры кожнай нашай сустрэчы мы пачынаем гаварыць зноў аб тым-жа самым: як пісаць, каб было добра. Пры гэтым аказваецца, што наконт таго, што такое добра і што такое дрэнна таксама няма адзінай думкі. Адны лічаць, што добра — гэта паказваць толькі добрае і не паказваць розных балячак: няхай людзі думаюць, што іх у нас няма. Другія лічаць, што менавіта язвы перш за ўсё трэба выстаўляць на паказ, ды яшчэ і раскалупаць іх, каб увесь сьвет бачыў, якія яны страшныя. Тады, як быццам, хутчэй будзе знойдзена лякарства ад гэтых язваў. А праўда, відаць, ня ў гэтым. Праўда ў тым, каб пісаць праўду і аб здароўі і аб балячках адпаведна таму, якое яны займаюць месца ў нашым жыцьці».

Кандрат Крапіва заняў памяркоўную пазыцыю, але ўсё-ж з націскам на тое, каб балячак занадта не раскалупваць. Маладзейшае-ж пакаленьне пісьменьнікаў бачыць сваё заданьне ў іншым. Ад іхнага імя Васіль Быкаў у свой час пісаў: «найпершы абавязак літаратуры ў тым, каб ускрываць гнойныя раны чалавецтва і тым дамагацца іхнага вылячэньня». Ня трэба й дыскусіяў, каб усьведаміць, што пазыцыя маладзейшага пакаленьня беларускіх літаратараў — ускрываць і лячыць гнойныя раны падсавецкага жыцьця — больш пазытыўная й шляхотная, чымся пазыцыя лякіроўшчыкаў і прыдворных пісакаў, якія яшчэ сустракаюцца ў беларускім пісьменьніцкім асяродзьдзі. Але добра ўжо, што зьезд талерантна паставіўся і да прадстаўнікоў прагрэсыўнага кірунку. Гэта відаць нават з праграмнага дакладу, зь якім выступіў на зьезьдзе старшыня Саюзу пісьменьнікаў БССР Пятрусь Броўка.

Броўка гаварыў на тэму 'Партыйнасьць і народнасьць — галоўная лінія беларускай мастацкай літаратуры». Адпаведна тэме, дзе «партыйнасьць» пастаўленая на першае месца, Броўка павучаў пісьменьнікаў, як яны павінны дапамагаць партыі будаваць гэтак званы камунізм. Разглядаючы творчасьць паасобных пісьменьнікаў, Броўка, як і трэба было чакаць, найбольш увагі прысьвяціў Васілю Быкаву. Броўка гаварыў:

«Шырока вядомая творчасьць Васіля Быкава. Чаму яна прыцягвае ўвагу чытача? Васіль Быкаў, які перажыў жахі вайны, у сваіх лепшых творах паказаў суровую праўду барацьбы, гераізм радавых людзей. Быкаў праўдзіва ўваскрашае абставіны, якія былі на вайне. Як мастак, Васіль Быкаў вельмі ўдумлівы. Ён умее сказаць коратка і вельмі важка. Выключна вялікую ўвагу ён аддае мове герояў — яна індывідуальная, адпаведная характарам і жыцьцю герояў.

Аднак, на жаль, ёсьць у аўтара і зрывы. Апошнюю аповесьць Васіля Быкава «Мёртвым не баліць» моцна крытыкаваў наш друк. Аповесьць сапраўды заслугоўвае прынцыповай крытыкі, бо, як гаворыцца ў аглядзе «Правды», аўтару трэба сказаць адкрыта і бескампрамісна, што аповесьць яму не ўдалася. А не ўдалася таму, што ў шмат чым ў гэтай аповесьці ён адыйшоў ад пачуцьця рэальнага, а месцамі, можа ў пагоні за ўяўнай займальнасьцяй, сказіў праўду нашага жыцьця».

«Ваколь Васіля Быкава за апошні час вядзецца шмат размоў. Некаторыя крычаць аб тым, што перакрэсьліваецца ўсё створанае Быкавам. Я хацеў-бы, каб усе зразумелі, што ніхто не закрэсьлівае і ня зьбіраецца закрэсьліваць усяго добрага, што зроблена здольным аўтарам. Зробленае ім таленавіта заслугоўвае шырокага распаўсюджаньня, але мінаць памылкі мы ня маем права. Ёсьць памылкі аўтара, ёсьць віна ў тым і наша, што мы адкрыта яму аб іх не сказалі. Мушу прызнаць сваю памылку і я».

Далей Броўка гаварыў: «Васіль Быкаў пісьменьнік таленавіты, я ўпэўнены, зразумее сапраўдную сутнасьць партыйнай крытыкі, перапрацуе свой апошні твор карэнным чынам і ў далейшым яшчэ ня раз парадуе нас праўдзівымі, высокамастацкімі творамі ...»

Тут пахвалы пісьменьніку перапляталіся з прызнаньнем рацыі партыйнай крытыцы. Адсутнічаюць ранейшыя войстрыя напады. Як кампраміс, Броўка прапануе перапрацаваць твор. Але гэта быў-бы «гнілы кампраміс». І трэба спадзявацца, што Васіль Быкаў на яго ня пойдзе. У аповесьці «Мёртвым не баліць» выкрытая яшчэ далёка ня ўся горкая і крывавая праўда пра вайну. Беларускі народ перажыў яе яшчэ больш жахлівай, і чакае ад пісьменьнікаў глыбейшай і шырэйшай распрацоўкі гэтай тэмы. А Васіль Быкаў піша для народу.

Нягледзячы на крытыку. Васіль Быкаў не адрокся ад свайго разуменьня ролі літаратуры. Гэта відаць із зьместу ягонага выступленьня на пісьменьніцкім зьездзе. Вось як ягонае выступленьне было пераказанае газэтай «Літаратура і Мастацтва»:

«— Голы рацыяналізм, імкненьне падпарадкаваць літаратуру і мастацтва патрэбам кожнага канкрэтнага дня, ігнараваньне складанасьці жыцьця і дыялектыкі разьвіцьця прыносіць напапраўную шкоду літаратуры, — падкрэсьлівае прамоўца.

«Ён прыгадвае славутую тэорыю бесканфліктнасьці, паводля якой праўда жыцьця, яго складанасьць абыходзіліся, а то і зусім ігнараваліся, нагадвае агульнавядомую ісьціну, што выкрываньне дрэннага ў жыцьці, таго, што перашкаджае руху наперад, таксама служыць сьцьвярджэньню сьветлага, станоўчага.

«Даволі значнае месца ў выступленьні В. Быкава было адведзена крытыцы, якая часам няглыбока і непрафэсыянальна ацэньвае творы. У некаторых выступленьнях крытыкаў залішне многа ,прапраработкі' і малавата абгрунтаванасьці, таварыскай павагі і добразычлівасьці. Не задавальняе прамоўцу і практыка некаторых рэдактараў, якія, на яго думку, больш прыязна сустракаюць аўтараў, што пішуць на даўно абкатныя і бясспрэчныя тэмы, і з насьцярогай ставяцца да тых, хто спрабуе ўзьняць тэмы новыя, складаныя і вострыя.

«Выступленьне В. Быкава было прасякнута шчырым клопатам аб разьвіцьці нашай літаратуры, але, на жаль, не заўсёды стрыманым і разважным. Прадузята падыйшоў ён, у прыватнасьці, да ацэнкі агульнага стану сучаснай савецкай літаратуры, прыніжаючы яе вядавочныя здабыткі».

Быкаў, як бачым, не абараняўся, а наступаў. У прабегу дыскусіі пісьменьнікі-дагматыкі больш або менш войстра папракалі яго за «памылкі». Але найбольш войстрым было выступленьне сакратара ЦК КПБ С. Пілатовіча. Маючы відавочна на ўвазе В. Быкава, Пілатовіч гаварыў:

«Будаўніцтва камунізму ў нашай краіне праходзіць ва ўмовах, калі імпэрыялістычная буржуазія вядзе разьюшаную антыкамуністычную прапаганду, спрабуе ўбіць клін паміж партыяй і савецкім народам, хоча пасеяць варожасьць паміж народамі Савецкага Саюзу, спэкулюе на нашых памылках і недахопах. У гэтых умовах некаторыя савецкія грамадзяне, у тым ліку і некаторыя пісьменьнікі, ня здолелі глыбока разабрацца ў сутнасьці працэсаў і зьяў, якія адбываюцца, і апынуліся ў палоне ідэйнай неразьбярыхі.

«Кажуць, што ў нас яшчэ многа недахопаў і іх трэба выкрываць, і быццам хтосьці пярэчыць супраць гэтага. Ня трэба ламацца ў адчыненыя дзьверы. Гаворка ідзе зусім аб іншых рэчах. Мы выступаем супраць разбурэньня ідэалаў, якім прысьвяціла сябе не адно наша пакаленьне савецкіх людзей. Такая справа ня робіць гонару савецкаму чалавеку, тым больш — пісьменьніку. Тут мы бескампрамісныя і не зьвяртаем увагі, хто ён, якія мае заслугі, камуніст ці беспартыйны. Так было пры Леніне, так будзе і цяпер. І калі мы чытаем у творы, што патрыятызм у гады Вялікай Айчыннай вайны — гэта газэтная выдумка, што ўсё рабілася пад прымусам, пад страхам сьмерці, гэта ня можа ня выклікаць у нас прыкрасьці і абурэньня».

Страх перад гэтак званай буржуазнай прапагандай, перад разбурэньнем «ідэалаў», перад выкрыцьцём натвораных злачынстваў — вось сёньняшні духовы стан партыйных саноўнікаў. Баіцца, звычайна, той, хто вінаваты або ня мае рацыі. Хто-ж прайшоў жыцьцё сумленна і сумленным хоча застацца, той не баіцца глядзець праўдзе ў вочы. У шэрагах беларускіх пісьменьнікаў сумленныя й адважныя складаюць бальшыню. Гэта відаць і з таго, што, не зважаючы на партыйныя прыкрыкваньні й пагрозы, Васіль Быкаў быў выбраны ў кіраўнічыя органы пісьменьніцкай арганізацыі і ўвайшоў у склад дэлегацыі ад Беларусі на IV-ы зьезд пісьменьнікаў СССР.

*А. Залескі*

# Сьвятой Памяці д-р Станіслаў Грынкевіч



**18-га красавіка гэтага году ў амэрыканскім горадзе Кліўленд на 54-ым годзе жыцьця памёр д-р Станіслаў Грынкевіч.**

**На працягу ўсяго свайго жыцьця Станіслаў Грынкевіч быў ведамы, як палымяны беларускі патрыёт, стойкі, адважны й бескампрамісны змагар за справу незалежнасьці Беларусі. Лекар з прафэсіі, але адукаваны ўсебакова, Станіслаў Грынкевіч быў заўсёды ў самых першых радох там, дзе была магчымасьць бараніць беларускую справу. Ня толькі бараніць, але й тварыць яе! Ня толькі ў грамадзе, але й на адзіноце. Станіславу Грынкевічу былі пад сілу найбольш цяжкія заданьні ў найбольш складаных сытуацыях. Ён з запалам браўся за выкананьне кажнага грамадзкага абавязку, кожнай палітычнай місіі і дасягаў посьпехаў, дзе іншыя ўважалі іх немагчымымі. Ягоная адвага, рашучасьць і выходлівасьць зьдзіўлялі і прыяцеляў і ворагаў, і выклікалі да яго павагу й пашану.**

**Перадчасная сьмерць д-ра Станіслава Грынкевіча выклікала глыбокі смутак і жаль ўва ўсёй беларускай эміграцыі. Мы страцілі чалавека й змагара, замяніць якога мы ня ў стане.**

**Матарыялы з падрабязным аглядам жыцьцёвага шляху Станіслава Грынкевіча зьмешчаныя ў 110 нумары ньюёрскай газэты «Беларус». Да іх мы й адсылаем нашых чытачоў.**

**Рэдакцыя «Бацькаўшчыны»**

# Нішчацца гістарычныя помнікі

Яшчэ ў 1948 годзе савет міністраў СССР прыняў пастанову аб ахове помнікаў культуры. Апошнімі гадамі ў саюзных рэспубліках былі створаныя нацыянальныя таварыствы аховы культурных помнікаў. Створанае такое таварыства і ў Беларусі. Але проста ня хочыцца верыць, што нішчэньне гістарычных помнікаў у нас, у Беларусі, апошнім часам ня толькі ня спынілася, але, наадварот, яшчэ павялічылася. У беларускай савецкай прэсе публікуюцца пра гэта алярмуючыя артыкулы.

Пачнем ад найстарэйшых помнікаў — археялягічных.

Навуковы супрацоўнік Інстытуту гісторыі Акадэміі навук БССР Шут пісаў у газэце «Чырвоная зьмена» 5-га чэрвеня.

«Беларусь – край шматлікіх археялягічных помнікаў. Тут знаходзіцца вялікая колькасьць стаянак каменнага веку, гарадзішчаў і селішчаў раньняга жалезнага веку, разнастайных па ўзросту курганоў, скарбаў і іншых асабістых рэчаў старажытных людзей. Гэтыя помнікі можна сустрэць амаль усюды: на берагох рэчак і азёр, на палетках і сенажацях, у лясох і на балотах. Яны зьўляюцца вялізарным багацьцем нашай рэспублікі... Перш за ўсё, у кожным такім памніку знаходзяцца цікавыя і каштоўныя для навукі прылады працы, упрыгожаньні, прадмэты побыту, вельмі патрэбныя для вывучэньня гісторыі плямёнаў і народаў у той далёкі дапісьмовы час.»

Беларускі археялёг Шут піша, што разбурэньне археялягічных помнікаў, асабліва гарадзішчаў, працягваецца і то ў такіх памерах, у якіх яны не разбураліся ніколі дагэтуль.

«Дастаткова сказаць, — піша Шут, — што за апошнія тры-чатыры гады разбурана значна больш помнікаў, чымся за ўвесь час іхнага існаваньня. Пры гэтым маштабы разбурэньня ня могуць ісьці ні ў якое параўнаньне з тымі, якія назіраліся да гэтага часу: гарадзішчы зьнішчаюць амаль дашчэнту.

Усе факты абыякавых адносінаў да помнікаў старажытнасьці павінны ўзрушыць шырокія колы грамадзкасьці, таму што праз 10-20 гадоў ня стане (калі яны будуць такімі тэмпамі разбурацца) ніводнага помніка.»

Археялёг Шут падае шмат прыкладаў безадказнага стаўленьня да тэтых помнікаў з боку мясцовых уладаў, прапануе месцы старажытных гарадзішчаў, стаянак, курганоў выкарыстаць у якасьці турыстычных аб'ектаў, як гэта робіцца ў іншых краінах, каб захаваць помнікі для далейшага дасьледваньня й для нашчадкаў. Ён зьвяртаецца з заклікам да ўсяго беларускага грамадзтва беражліва захоўваць помнікі мінуўшчыны, «якія адлюстроўваюць слаўныя старонкі нашай гісторыі.»

Але зьнішчаюцца ня толькі археялягічныя помнікі. Ня гледзячы на ўсе пастановы й заклікі, далей руйнуюцца каштоўныя, часам унікальныя, помнікі беларускай **архітэктуры.** Пра гэта пісаў у газэце «Літаратура і мастацтва» адзінаццатага студзеня дацэнт катэдры архітэктуры Беларускага палітэхнічнага інстытуту Чантурыя. Свой артыкул Чантурыя пачаў словамі:

«У галіне архітэктуры беларусы яшчэ ў старажытныя часы стварылі выдатныя каштоўнасьці; дасягнулі вяршынь мастацкай сталасьці. Няцяжка зразумець, якое вялікае значэньне мае зьберажэньне і вывучэньне помнікаў архітэктуры — маўклівых, але жывых сьветкаў гісторыі.

Трэба, аднак, з усёй шчырасьцяй сказаць, што аб сваіх нацыянальных каштоўнасьцях мы клапоцімся вельмі дрэнна, не выкарыстоўваем усіх магчымасьцяў для іх прапаганды, недастаткова выхоўваем на традыцыях мінулага моладзь.

Балюча бачыць, калі помнікі архітэктуры, што перажылі стагодзьдзі, гінуць ужо ў нашы дні, гінуць у імя ўяўнага 'упарадкаваньня', 'абнаўленьня' і так далей.»

Пасьля дацэнт Чантурыя падае трагічны малюнак нішчэньня архітэктурных помнікаў Беларусі.

«... ужо ў нашы дні былі зьнішчаныя царква Багавешчаньня ў Віцебску, старажытнае Замчышча ў Менску... Нядаўна ў Горадні быў узарваны былы прыходзкі (фарны) касьцёл (пазьней гарнізонны сабор), што стаяў на рагу плошчы і вуліцы Савецкай. Касьцёл, пабудаваны ў XVI-XVII стагодзьдзях, належаў да ліку самых старажытных будынкаў гораду. У імя чаго быў зьнішчаны гістарычны помнік?»

«Ні ў адным іншым беларускім горадзе няма столькі помнікаў культуры розных эпохаў і стыляў, як у Горадні. Паіх вельмі добра можна прасачыць, у якіх умовах і пад якім уплывам разьвівалася беларуская архітэктура, як складаўся ейны нацыянальны характар. Аднак з горычу трэба сказаць, што ў Горадні бесклапотна паставіліся ня толькі да лёсу былога касьцёлу. Сапсаваным дабудовамі аказаўся копмлекс былога Брыгіцкага манастыра; ягоную званіцу, амаль скульптурны помнік бароку, выдатны арыенцір усяго ансамблю, разабралі. Зьнішчаны цікавы помнік жылой архітэктуры XVIII стагодзьдзя, гэтак званы «Дом рыбака». Такі-ж лёс напаткаў многія будынкі былой «Гарадніцы», у тым ліку жылыя дамы работнікоў – першыя ўзоры масавага тыпавога будаўніцтва на Беларусі.»

«У Магілеве ў 50-ых гадох былі разабраныя гарадзкая ратуша і Багаўленскі сабор — унікальныя і характэрныя помнікі грамадзянскага і культурнага дойлідзтва XVII стагодзьдзя.»

«У Слаўгарадзе псуюць дабудовамі храм-помнік архітэктуры XVIII стагодзьдзя. У Быхаве разбураюць былы палац Сапегі, а ў Гальшанах — цэлы ансамбль палацаў. Самае дзіўнае, што ўсе гэтыя помнікі лічацца пад аховай дзяржавы.

«У Паставах разбураныя былыя гандлёвыя рады, зьнішчаныя цікавыя жыльлёвыя дамы, пабудаваныя на тыпавых асновах, з улікам ансамблевай забудовы ўсёй плошчы. І гэта ў той час, калі ў Беларусі грамадзянскіх і жыльлёвых будынкаў гістарычнага паходжаньня так мала.

«Шэдэўр драўлянага дойлідзтва XVII стагодзьдзя – разны шмат-ярусны іканастас царквы Мікалая ў Магілёве разбураецца пад цяжарам літаратуры, якая зваленая тут. Трэба неадкладна ратаваць гэтае унікальнае тварэньне беларускіх майстроў ...»

Мы перадалі тут толькі тое, што было пералічана ў артыкуле дацэнта катэдры архітэктуры Беларускага палітэхнічнага інстытуту Чантурыя. Чантурыя адзначае, што ў справе аховы помнікаў беларускай архітэктуры столькі памылак, страт, недагляду, што пісаць пра гэта спакойна проста немагчыма. Гэтае па-

(Заканчэньне на 8-ай бач.)

# Выпускныя экзамены і... беларуская мова

Нядаўна пісалася ў «Зьвязьдзе» пра выпускныя экзамены ў беларускіх школах. Здаецца, усё тое самае, як калісьці. Ды вось не, ёсьць і новае. Газэта ў перадавым артыкуле піша: «Па той-жа традыцыі першы экзамен у выпускнікоў сярэдніх школаў пачынаецца з сачыненьня па рускай літаратуры. І гэта не выпадковае...»

Вось яно што! Па традыцыі... Дзіўная традыцыя, як на беларускія школы... Пашто і каму яна патрэбная? Але-ж пішуць, што «гэта ня выпадкова». Чаму? І вось ідзе паясьненьне: «Пісьмовае сачыненьне па рускай літаратуры паказвае здольнасьць маладога чалавек творча мысьліць, аналізаваць і абагульняць факты і падзеі, сьвядома асэнсоўваць іх.» Цікава, а няўжо беларуская літаратура ня мае гэтых уласьцівасьцяў? З усяго выглядае, што быццам — не, што гэта толькі ўласьцівасьць расейскае мовы і літаратуры...

Прыгадваецца зь гісторыі літаратуры і культуры наагул, што ў 18-ым і нават у пачатку 19-га стагодзьдзя ўважалася, што творча, а асабліва лягічна разважаць, дыскутаваць, аналізаваць можна толькі ў француcкай мове, роля-ж іншых нацыянальных моваў зыходзіць да бытавога, штодзённа-хатняга ўжытку, як мова плебэйскіх масаў, простага народу. Але разам з нацыянальнымі адраджэньнямі й нацыянальна-сацыяльнымі вызвольнымі рухамі гэтае францускае бажышча было ськінутае з свайго п'едэсталу. Усюды пабачылі, што лягічна разважаць, выказваць найглыбейшыя думкі ці пачуцьці можна як у францускай мове так і ў вугорскай, нямецкай, чэскай, беларускай ці іншых. З умовай зразумела, калі чалавек добра ведае гэтую мову.

Ды вось, ня гледзячы на ўсё гэта, сёньня на нашай бацькаўшчыне на п'едэстал пастаўленае новае бажышча – расейская мова.

Чытаем далей артыкул «Зьвязды» і шукаем, на якім-жа месцы ў выпускных экзаменах стаіць беларуская мова, мова родная, мова рэспублікі. Выяўляецца, яе зусім няма на прыгаданых у артыкуле экзаменах. І гэта ў беларускіх школах! Проста ня хочыцца верыць. Зрэштай, пры чым тут — хочыцца, ці ня хочыцца верыць. Факты, сумныя факты гавораць сваё. Так і бачыш на п'едэстале новае бажышча з гіранічнай, хоць і шырокай маскоўскай усьмешкай.

Добра адно, што, як паказвае гісторыя, ўсякія бажышчы раней ці пазьней падаюць з сваіх падмуркаў пад ціскам грамадзкае думкі.

# Рэха сьвяткаваньня 48-ых угодкаў Акту 25-га Сакавіка



*Дэлегацыя БАЗА ў віцэ-прэзыдэнта ЗША Губэрта Г. Гамфры.*

*Справа ад Віцэ-Прэзыдэнта: старшыня Галоўнай Управы БАЗА інж. Мікалай Гарошка і праф. Барыс Кіт; зьлева ад Уладыкі Васіля: Капэлян Сэнату Дастойны Фрэдэрык Браўн Гаррыс і рэфэрэнт вонкавых дачыненьняў БАЗА д-р Станіслаў Станкевіч*

Сёлета, як і ў папярэднія гады, беларуская эміграцыя прадэманстравала сваю вернасьць ідэі дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі, правёўшы ўва ўсіх сваіх асяродках урачыстае адзначэньне ўгодкаў Акту 25-га сакавіка. Адданасьць Беларусаў на эміграцыі ідэі дзяржаўнай незалежнасьці свае Бацькаўшчыны не застаецца незаўважанай і сярод грамадзкасьці народаў Захаду. На прыкладзе эміграцыі гэтая грамадзкасьць бачыць, што зьяўляецца галоўным у духовым імкненьні Беларуса ня толькі ў выгнаньні, але і ў краі ягоных бацькоў.

Ніжэй падаем агляд сёлетніх Сакавіковых урачыстасьцяў у розных краінах і гарадох. Пра сьвяткаваньні ў асяродках, зь якіх «Б-на» не атрымала адмысловых справаздачаў, паінфармуем коратка на падставе вестак з іншых газэтаў і часапісаў.

### У ЗША

З нагоды 48-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі дэлегацыя Беларусаў Амэрыкі наведала Вашынгтон. 25-га сакавіка адмысловай малітвай архіяпіскап БАП Царквы Уладыка Васіль адкрыў сэсію Сэнату ЗША, якому ён быў прадстаўлены Віцэ-Прэзыдэнтам ЗША Губэртам Гэмфры.

Пасьля малітвы беларуская дэлегацыя ў складзе Уладыкі Васіля, старшыні Галоўнай Управы БАЗА інж. Мікалая Гарошкі, рэфэрэнта вонкавых дачыненьняў Галоўнай Управы БАЗА д-ра Станіслава Станкевіча й праф. Барыса Кіта была прынятая Віцэ-Прэзыдэнтам Губэртам Г. Гэмфры ў прысутнасьці лідэра Дэмакратычнай фракцыі Сэнату сэнатара Майк Мансфільда з Мантаны й лідэра Рэспубліканскай фракцыі сэнатара Эвэрэт Дэрксэна зь Іліной. Пасьля супольнага сфатаграфаваньня, беларуская дэлегацыя, з даручэньня сэнатара Джакаб Джэвітса, ягоным асыстэнтам д-рам Лісьлі Гэльбам была запрошаная ў рэстаран для сэнатараў на Капітолі на абед.

З гэтай-жа прычыны, але яшчэ 7-га сакавіка, адмысловай малітвай адкрыў сэсію Палаты Рэпрэзэнтантаў амэрыканскага Кангрэсу беларускі каталіцкі сьвятар ксёндз Міхал Урбановіч. Дэлегацыя Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў складзе кс. Урбановіча, рэфэрэнта вонкавых дачыненьняў БАЗА д-ра Ст. Станкевіча й праф. Барыса Кіта перад малітвай прыняў сьпікер Палаты кангрэсмэн із штату Масачусэтс Джон Мэк Кормак. Пасьля малітвы й супольнага сфатаграфаваньня, беларускую дэлегацыю запрасіў кангрэсмэн Джон Дынгель на супольны абед на Капітолі. Гэтая нагода была выкарыстаная дзеля паінфармаваньня кангрэсмэна пра беларускія нацыянальна-вызвольныя праблемы і абмеркаваньня далейшага супрацоўніцтва зь ім.

Сябры амэрыканскага Кангрэсу пра беларускія справы паінфармаваныя ўжо нядрэнна. Пра гэта сьветчыць тое, што з нагоды 25-га Сакавіка сёлета ў Кангрэсе выступілі з прамовамі каля сарака кангрэсмэнаў. Яны выказвалі свае сымпатыі й маральную падтрымку беларускаму народу ў ягоным гераічным змаганьні за сваю свабоду й незалежнасьць. Беларусы могуць цешыцца, што маюць у Амэрыцы столькі выдатных прыяцеляў.

### НЬЮ ЁРК

Сьвяткаваньне 48-ых угодкаў абвешчаньня дзяржаўнай Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі адбылося ў Нью Ёрку ў нядзелю 27 сакавіка. Было яно зладжанае супольна Галоўнай Управай Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, Нью-ёркаўскай Акругай БАЗА, Аддзелам БАЗА ў Нью-Джэрзі й Аддзелам БАЗА ў Гэмпстэд, штату Нью Ёрк.

У Катэдральным Саборы БАПЦарквы сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне адбылася Божая Служба й малебен за Беларускі Народ і ягонае вызваленьне, адпраўленыя Уладыкам Васілём. У часе малебну Уладыка Васіль сказаў вельмі прыгожае й глыбака патрыятычнае казаньне.

Папаўдні ў залі гатэлю Білтмор на Мангэтэне распачалася ўрачыстая Акадэмія, якую адкрыў старшыня Галоўнай Управы БАЗА інж. Мікалай Гарошка. Пасьля прапяяньня амэрыканскага нацыянальнага гімну сп-няй Лізай Маркоўскай і малітвы Архіяпіскапа БАП Царквы Васіля, якую ён два дні перад гэтым чытаў у Сэнаце ЗША, слова ўзяў кангрэсмэн із штату Нью Джэрзі Паўла Крэбс (ад Дэмакратычнай партыі). У гарачых словах ён выказаў прызнаньне Беларускаму Народу, які, не зважаючы на вялізарныя ахвяры, наважана вядзе змаганьне супраць камунізму за сваё вызваленьне, даючы гэтым узорны прыклад усім народам сьвету, загрожаным камунізмам.

Другім амэрыканскім прамоўцам быў кангрэсмэн Сэймур Гальпэрн із штату Нью Ёрк (ад Рэспубліканскай партыі). У сваёй доўгай і грунтоўнай прамове ён даў глыбокі й унікліві аналіз праступнай існасьці камунізму, вельмі правільна нарысаваў усе тыя беды, што цэрпіць ад расейскага камунізму Беларускі Народ, ды выказаў цьвёрдую веру ў тое, што ў сваім супраціве й змаганьні ён пераможа. Кангрэсмэн Гальпэрн зьдзівіў слухачоў дакладным веданьнем палажэньня ў БССР, асабліва савецкай палітыкі русыфікацыі. Ён падаваў ня толькі агульныя мамэнты русыфікацыйнай палітыкі ў БССР і супраціву ёй нацыянальнай інтэлігэнцыі, але й ілюстраваў свае цьверджаньні малаведамымі тут канкрэтнымі фактамі, узятымі зь беларускай савецкай прэсы.

Мэр гораду Нью Ёрк Джон Ліндзі, ня могучы прыбыць асабіста, выдэлегаваў на Акадэмію свайго асыстэнта Канстанціна Сідамона Арыстафа, які ад ягонага імя у кароткай промове прывітаў прысутных і прачытаў праклямацыю мэра Ліндзі пра абвешчаньне дня 25 сакавіка Днём Незалежнасьці Беларусі ў горадзе Нью Ёрку.

Тут-жа былі прачытаныя прысланыя на адрыс Галоўнай Управы БАЗА праклямацыі губэрнатара штату Нью Ёрк Нальсана Рокфэлера й губэрнатара штату Пэнсыльванія Вільяма Скрэнтана пра абвешчаньне ў гэтых штатах Дня Беларускай Незазалежнасьці. Далей былі прачытаныя такія-ж праклямацыі губэрнатара штату Нью Джэрзі Рычарда Гюса, мэра гораду Нью Брансьвік Чэстэр Паўлюса й мэра гораду Саўт Рывэр Тэодора Апэлбі, штату Нью Джэрзі, якія былі ўручаныя Управе Аддзелу БАЗА ў Нью Джэрзі. Наапошку была прачытаная такая-ж праклямацыя старшыні каўнты (павету) Нассаў А. Нікэрсона, якая ім асабіста была ўручаная управе Аддзелу БАЗА ў Гэмпстэд.

Ад беларускага грамадзтва на Акадэміі прамаўлялі старшыня Галоўнай Управы БАЗА інж. М. Гарошка паангельску й сябра Галоўнай Управы БАЗА д-р С. Станкевіч, пабеларуску.

Пасьля гэтага прысутныя на сьвяткаваньні старшыні й прадстаўнікі іншанацыянальных цэнтраў і арганізацыяў выступалі з прывітальнымі прамовамі.

Апрача прывітальных прамоваў, былі прачытаныя й некаторыя з цэлага мноства прысланых пісьмовых прывітаньняў і тэлеграмаў. Спачатку было прачытанае пісьмовае прывітаньне Прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка.

На адрас Галоўнай Управы БАЗА было прыслана звыш пяцідзесяці прывітальных лістоў і тэлеграмаў ад кангрэсмэнаў з розных штатаў Амэрыкі. Пасьля гэтага былі прачытаныя прывітаньні ад іншанацыянальных арганізацыяў і прадстаўнікоў.

Афіцыйная частка Акадэміі перапляталася багатай беларускай мастацкай праграмай, якую выконвалі мастацкія сілы Беларусаў Нью Ёрку.

На заканчэньне ўрачыстасьці была прынятая рэзалюцыя.

### НЬЮ ДЖЭРЗІ

Сьвята незалежнасьці адбылося тут у нядзелю 3 красавіка: багаслужба ў царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Нью Брансвіку і ўрачысты сход з мастацкай праграмай у Саўт-Рывэры.

Губэрнатар штату Рычард Гюз, а таксама мэры гарадоў Нью Брансвіку і Саўт-Рывэру абвесьцілі былі дзень 25-га сакавіка Днём Беларускай Незалежнасьці. У дзень 25-га сакавіка ў прысутнасьці мэра Апэлбі ў Саўт Рывэры і заступніка мэра Паўлюса ў Нью Брансвіку ды беларускіх дэлегацыяў БАЗА й Царкоўнае Рады адбылася ўрачыстасьць узьняцьця амэрыканскага й беларускага сьцягоў.

Сьвяточны сход адбыўся ў саўтрывэрскай залі «Лібэрты Гол». Мгр. П. Маньхоўскі выступіў з дакладам паангельску пра справу беларускае незалежнасьці. Даклад у беларускай мове прачытаў д-р Ул. Бакуновіч.

Была наладжаная таксама мастацкая праграма.

### ЧЫКАГА

Тут урачыстасьці адбыліся 27-га сакавіка ў памешканьні Беларускага Культурна-Рэлігійнага Цэнтру. Перад Акадэміяй а. Я. Тарасэвіч адслужыў малебен за беларускі народ. На Акадэміі, у перапоўненай залі Беларускага Цэнтру, рэфэрат прачытала Вера Рамук. Праклямацыі губэрнатара штату і мэра гораду, якімі дзень 25-га сакавіка абвяшчаўся Днём Беларускай Незалежнасьці, прачытаў д-р В. Рамук. З патрыятычнымі словамі выступілі мгр. Вацлаў Пануцэвіч і а. Я. Тарасэвіч. Прамаўлялі таксама прадстаўнікі нашых суседзяў. У мастацкай частцы ўрачыстасьці бралі ўдзел кампазытар прафэсар Мікола Куліковіч, сьпявачкі Надзея Градэ й Анна Брушкевіч, і мясцовая беларуская моладзь.

21-га сакавіка прадстаўнікі ўсіх беларускіх арганізацыяў у Чыкага зложылі візыт бургомістру места. Пра сьвяткаваньне было таксама загадзя паведамлена ўва ўсёй іншамоўнай прэсе Чыкага, а таксама ў радыёвых перадачах.

Беларусы з Беларуска-Амэрыканскай Нацыянальнай Рады ў Чыкага ладзілі сьвяточную акадэмію таго-ж дня. Старшыня БАНРады сп. В. Пунтус, які выступіў з прывітальным словам на сьвяткаваньні ў Беларускім Культурна-Рэлігійным Цэнтры, заклікаў, каб у наступным годзе 25-га Сакавіка адзначаць супольна.



*Беларускія дзяўчаты: Ліда Каралюк, Габрыеля Богдан і Маня Жызьнеўская уручаюць Бурмістру гораду Чыкага Рычарду Й. Дэйлі букет кветак у нацыянальных колерах з нагоды праклямаваньня ім дня 25 сакавіка Днём Незалежнасьці Беларусі*

### КЛІЎЛЕНД

За колькі дзён да сакавіковых урачыстасьцяў дзьве найбольшых англамоўныя кліўлендзкія газэты двойчы зьмяшчалі паведамленьне, што ў нядзелю 27-га сакавіка Беларусы Кліўленду адзначаць 48-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі.

27-га сакавіка раніцай вялікі пляц пры мясцовай беларускай царкве ня мог зьмясьціць усіх самаходаў, на якіх Беларусы прыбылі на малебен, а пасьля абеду вялікая парафіяльная заля не магла зьмясьціць усіх, што прыбылі на ўрачыстую Акадэмію. Адным з прамоўцаў выступіў на ўрачыстасьці кангрэсмэн М. Фіен. Ён, між іншага, гаварыў:

«Беларусь мае ўсе правы, нароўні зь іншымі народамі, кіраваць сваім лёсам, і можна спадзявацца, што раней ці пазьней цёмны прывід камунізму зьнікне спанад сьвятой беларускай зямлі.»

Сёлета кліўлендцы далі асабліва багатую мастацкую праграму.

Як і ў бальшыні іншых гарадоў, урачыстасьці закончыліся супольным пачастункам.

### ЛЁС АНДЖЭЛЕС

Тут сьвяткаваньне было наладжана супольна мясцовымі аддзеламі БАЗА і БККА. Былі атрыманыя прывітаньні ад афіцыйных прадстаўнікоў уладаў Каліфорніі. Зьместоўны рэфэрат пра Акт 25-га Сакавіка прачытаў сп. Л. Бруцкі. У мастацкай частцы нашай было выступленьне вучаніцаў Беларускае школы.

Супольнае сьвяткаваньне сьветчыла аб здаровым павароце мясцовых Беларусаў у бок цясьнейшай нацыянальнай салідарнасьці й мацнейшага адзінства ў працы.

### ДЭТРОЙТ

Аддзел БАЗА ў Дэтройце сьвяткаваньне ўгодкаў 25-га Сакавіка ладзіў сёлета 3-га красавіка. Урачыстасьці прайшлі на высокім арганізацыйным узроўні. Даклад прачытаў мгр. Васіль Пляскач. Д-р Язэп Сажыч пазнаёміў прысутных із зьместам Звароту Прэзыдэнта Рады БНР.

### ГЭМПСТЭД

Зарганізаваны ўсяго тры месяцы таму Аддзел БАЗА ў Гэмпстэд на Лёнг Айленд у Штаце Нью Ёрк, ужо здолеў прыгожа выказацца сваёй дзейнасьцяй. Старшыня павету Нассаў прыняў дэлегацыю гэтага Аддзелу і ў ейнай прысутнасьці падпісаў праклямацыю, якой дзень 25-га сакавіка абвяшчаўся ў павеце Днём Беларускай Незалежнасьці. Пра гэта было паведамлена ў газэтах. Быў зьмешчаны таксама здымак, які паказваў акт падпісаньня праклямацыі.

### У АНГЕЛЬШЧЫНЕ
### ЛЁНДАН

Сьвяткаваньне 48-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі адбылося ў Лёндане ў нядзелю 27-га сакавіка.

Раніцою адбыліся Багаслужбы ў каталіцкай і праваслаўнай цэрквах, адслужаныя а. А. Надсонам і а. Прат. Тарановічам.

Папаўдні ў Беларускім Доме адбылася ўрачыстая акадэмія. Даклад прачытаў Старшыня Лёнданскага Аддзелу ЗБВБ сп. П. Навара. Гэты даклад быў цікавы тым, што ў ім былі разгледжаны ня толькі сам Акт 25-га Сакавіка, але была зробленая спроба падсумаваньня вынікаў гэтага Акту ў беларускім нацыянальным жыцьці на працягу 48 год ад часу ягонага абвешчаньня.

Ангельская паэтэса Вера Рыч зрабіла кароткі даклад паангельску і дала праграму зь ейных новых перакладаў беларускай паэзіі ў ангельскую мову.

Хор вучняў школы сьв. Кірылы Тураўскага выступіў з праграмай беларускіх песьняў і дэклямацыяў.

### БРАДФАРД

Сьвяткаваньне 48-ых угодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі ў Брадфардзе распачалося раніцай Багаслужбай у беларускай капліцы сьв. Спаса, якую адправіў настаяцель тамтэйшай парахвіі а. Янка Абабурка й сказаў патрыятычнае казаньне.

Папаўдні адбылася ўрачыстая Акадэмія, якую адкрыў старшыня Аддзелу ЗБВБ у Брадфардзе сп. Янка Калбаса. Сакавіковыя прывітаньні ад беларускіх арганізацыяў і мясцовага Аддзелу Саюзу Украінцаў у Вялікабрытаніі прачытаў сакратар Аддзелу ЗБВБ сп. С. Мак. Ад Вольных Казакаў на Чужыне вітаў Беларусаў палкоўнік Д. Каралькоў. З прывітаньнем ад Галоўнай Управы ЗБВБ у Лёндане выступіў ейны сакратар сп. А. Лашук.

### НОТЫНГАМ

У нядзелю 27 сакавіка Беларусы гораду Нотынгам ладзілі сьвяткаваньне ўгодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі.

Раніцай адбылася Божая Служба ў БАПЦаркве, якую мясцовыя Беларусы два гады таму самі аднавілі для сабскага карыстаньня. Пасьля малебну за Беларусь і патрыятычнага казаньня а. Янкі Абабуркі, прысутныя пераехалі з царквы ў памешканьне Украінскага Грамадзкага Клюбу, каб праслухаць рэфэрат і мастацкі мантаж, прысьвечаны Акту 25 Сакавіка.

Акадэмію адкрыў сп. Янка Бунчук і прачытаў прысланыя прывітаньні ад іншых арганізацыяў. Асабіста віталі ізь сьвятам Незалежнасьці сп. Юрка Хахолка зь Лідс і сп. Міхась Баяроўскі – старшыня Аддзелу ЗБВБ у Бірмінгам.

Добра апрацаваны рэфэрат прачытаў сп. Уладзімер Капач.

### БІРМІНГАМ

Тут Беларусы адзначылі сваё нацыянальнае сьвята 17-га красавіка. Як звычайна, сьвяткаваньне пачалося Багаслужбай, якую адправіў а. Янка Абабурка.

На ўрачыстым паседжаньні даклад на тэму дня прачытаў сп. А. Лашук.

Пасьля адбыліся перавыбары Ўправы Аддзелу ЗБВБ і мясцовай Царкоўнай Рады БАПЦ.

### Ў АЎСТРАЛІІ
### СЫДНЭЙ

26-га сакавіка сёлета сябры Беларускага Аб'еднаньня ў Новай Паўдзённай Валіі ўрачыста сьвяткавалі 48-ыя ўгодкі Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі.

Сьвяткаваньне адчыніў старшыня Аб'еднаньня інж. М. Каранеўскі. Рэфэрат

(Заканчэньне на 8-ай бач.)

